

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№6 (чэрвень), 2015

# Мяжа




**Amnesty International прызнала Юрыя Рубцова вязьнем сумленьня**

(старонка 3)

## ЗЬМЕСТ

# Amnesty International прызнала Юрыя Рубцова вязьнем сумленьня

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала Юрыя Рубцова вязьнем сумленьня і разглядае прысуд яму як частку доўгатэрміновай кампаніі перасьледу актывістаў грамадзянскай супольнасьці з боку беларускіх уладаў.




Пра гэта арганізацыя паведаміла 10 чэрвеня.

Праваабаронцы таксама абвясьцілі тэрміновую акцыю дзеля яго вызваленьня. Amnesty International заклікае міжнародную супольнасьць пісаць звароты на імя прэзыдэнта і генэральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, падкрэсьліваючы, што Юры Рубцоў — вязень сумленьня, зьняволены выключна за ажыцьцяўленьне свайго права на свабоду выказваньня меркаваньняў, і патрабаваць ад беларускіх уладаў яго неадкладнага і безумоўнага вызваленьня. У зваротах таксама будзе патрабаваньне спыніць перасьлед і запалохваньне актывістаў грамадзянскай супольнасьці.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі зьвяртае ўвагу, што беларускія праваабаронцы ад самага пачатку перасьледу грамадзкага актывіста лічылі яго палітвязьнем, і называе вельмі важным факт прызнаньня яго вязьнем сумленьня з боку Amnesty International:

«Гэта ў першую чаргу маральная падтрымка Юрыю Рубцову, які цяпер у такіх цяжкіх умовах і якому суд прызначыў два гады калёніі. Прызнаньне яго вязьнем сумленьня дазволіць перажыць яму гэты цяжкі час і захаваць моц духу. Я лічу, што гэта сыгнал міжнароднай праваабарончай супольнасьці на адрас беларускіх уладаў і беларускага грамадзтва, што справа Юрыя Рубцова мае адназначна палітычны падтэкст, — сказаў Алесь Бяляцкі, былы вязень сумленьня.

Гомельскі актывіст Юры Рубцоў быў асуджаны судом Пружанскага раёну на два гады пазбаўленьня волі 28 мая 2015 году. Гэта падоўжыла ягоны першапачатковы тэрмін, 18 месяцаў «хіміі», да якога ён быў асуджаны ў кастрычніку 2014 году за «абразу судзьдзі» (паводле артыкула 391 Крымінальнага кодэксу). Паводле вэрсіі абвінавачаньня, Юры Рубцоў не хацеў працаваць, адхіліў некалькі прапаноў зь мізэрнымі заробкамі.

Цяпер Юры Рубцоў у сьледчым ізалятары ў Баранавічах, ён абскарджвае судовае рашэньне.

http://www.svaboda.org/content/amnesty-international-pryznala-juryja-rubcova-viazniem-sumliennia/27067184.html

## Берасцейская журналістка абскарджвае штрафы

Журналіст-фрылансер Аліна Літвінчук падала касацыйную скаргу ў Берасцейскі абласны суд на пастанову суда Ленінскага раёну Берасця, які 3-га чэрвеня прысудзіў яе да адміністрацыйнай адказнасці (суддзя Дзмітры Шурын).

Журналістку абвінавацілі ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ па дзвюх справах і асудзілі агулам на 60 базавых велічыць штрафу. У судзе фігуравалі раздрукоўкі матэрыялаў з сайту нашага «Беларускага Радыё Рацыя» – расказвае Аліна Літвінчук:

– Суд не змог прадэманстраваць, чаму ўсталяванае для мяне абмежаванне на збор і распаўсюд інфармацыі, таксама чаму не ўлічаны палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародных пагадненняў, якія Беларусь падпісала. Таксама хачу прыгадаць, што суд не задаволіў ніводную з маіх прыкладзеных скаргаў.

Аліна Літвінчук таксама спрабавала атрымаць копію пратакола




судовага пасяджэння, якую суддзя абяцаў выдаць яшчэ на мінулым тыдні. Аднак суддзя напісаў рэзалюцыю, якая абмежавала права на атрыманне гэтай копіі – працягвае журналісткі:

– Лічу, што пратакол не выдалі ў тым ліку таму, што справа была сфальсіфікаваная, нават гэта адбывалася ў залі суда. І пратакол або ўвогуле не напісаны да гэтага часу, або ён сфальсіфікаваны, і можа не ўключаць нейкія мае скаргі або хадайніцтвы.

Журналістка рыхтуе ў сувязі з гэтым скаргу на імя старшыні суда. Сёлета суды ўжо 20 разоў штрафавалі журналістаў паводле арт. 22.9 ч.2 КаАП – “незаконны выраб прадукцыі СМІ”, у тым ліку чатыры разы — Аліну Літвінчук.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskaya-zhurnalistka-abskardzhva/

## Берасцейскага актывіста Андрэя Шарэнду затрымалі тройчы за дзень

Але пасля трох спроб абвінаваціць хоць у чымсьці, вымушаныя былі вызваліць.

Грамадскі актывіст Андрэй Шарэнда з Берасця быў затрыманы тройчы за вечар адной і той жа брыгадай міліцыі. Як ён паведаміў charter97.org, патрульным было загадана скласці пратакол за дробнае хуліганства, аднак у выніку супрацоўнікі міліцыі адмовіліся пісаць няпраўду на загад начальства.

«Учора ўвечары я выйшаў прайсціся з сябрам. Стаялі




размаўлялі. Дзесьці а 10-й вечара да нас пад'ехаў патрульны аўтамабіль. Міліцыянты сказалі, што нібыта паступіла скарга аб тым, што мы п'ем піва. Прычым размова ішла так, як быццам міма нас праязджаў хтосьці з начальнікаў, убачыў і сказаў затрымаць. Яны самі не ведалі, за што нас затрымліваць, і адпусцілі.

Сітуацыя паўтарылася праз паўгадзіны каля майго дома. Тыя ж самыя міліцыянты. Ім патэлефанавалі і паведамілі, што мяне ўсё ж трэба затрымаць і даставіць у апорны пункт. З нефармальнай гутаркі высветлілася, што за мной было сачэнне і загад затрымаць.

У апорным пункце на міліцыянтаў сталі ціснуць, каб тыя склалі пратакол за дробнае хуліганства, але папаліся нармалёвыя міліцыянты і яны адмовіліся. Вазілі да нарколага для фармальнай падставы, нібыта, быў п'яны. Але наркалогія паказала нуль. Адпусцілі, але праз 15 хвілін па дарозе дадому (ехаў на аўто) зноў дагналі і сказалі, што трэба ўсё ж завезці да ўчастковага для складання пратаколу. Ужо трэцім разам!

Скончылася ўсё тым, што міліцыянты папаліся сумленныя і наогул адмовіліся складаць хлуслівыя пратаколы», - паведаміў ён.

Актывіст мяркуе, што гэта ўсё звязана з набліжэннем «выбараў».

«Найперш я звязваю гэта з будучымі «выбарамі». Цяпер спрабуюць рабіць нейкую зачыстку ў рэгіёнах, у першую чаргу гэта тычыцца журналістаў і грамадскіх актывістаў. Для іх ладзяцца дробныя правакацыі і запалохванні», - патлумачыў актывіст.

Нагадаем, апошнім часам супраць многіх неабыякавых людзей сапраўды праводзяцца рознага кшталту правакацыі і адвольныя затрыманні, а журналісты ўсё часцей трапляюць на лаву падсудных з надуманых прычын.

http://charter97.org/be/news/2015/6/12/155179/

## Суд над Алесем Ляўчуком перанесены

Судовага разгляду справы незалежнага журналіста Алеся Ляўчука, за ўзятае інтэрв'ю ў футбаліста берасцейскага "Дынама" Рамана Васілюка, не адбылося. Прычынай гэтаму, паводле версіі міліцыі, сталася адсутнасць у судзе сведкі:

- Патэлефанавалі супрацоўнікі міліцыі і паведамілі, што суд перанесены на пятніцу. Я пайшоў да прадстаўніка суда, дзе мне сказалі, што мая справа нават не паступіла ў суд. І нічога невядома. Паехалі ў Ленінскі РАУС, у іх пачалася нейкая паніка, пачылі блытацца ў паказаннях. Таму я не ведаю, чым гэта скончыцца.

Алеся Ляўчука не ўпершыню вінавацяць у "незаконным вырабе інфармацыйнага прадукту" ды "супрацу з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі" без акрэдытацыі. Паралельна гэтай справе, супраць Алеся днямі ўзбуджана і яшчэ адна. Карэспандэнт лічыць, што адбываецца гэта на замову КДБ.

## Мікалай Статкевіч: "Мяне спрабавалі ўгаварыць адмовіцца ад адзіночкі"

У сваім чарговым лісце да бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча палітвязень Мікалай Статкевіч выказаў свае асцярогі наконт кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая павінна распачацца ужо ў хуткім часе.

У прыватнасці, Статкевіч піша: "Калі ўжо казаць пра тыя выбары і падрыхтоўку да іх дэмакратычных сілаў, то сітуацыя выглядае сумнай. Робіцца рэальнай перспектыва міжнароднай легітымізацыі. Для гэтага зараз дастаткова прадэманстраваць толькі "заўважны праргэс". Гэта значыць, паставіць меньшы працэнт і праігнараваць мажлівую акцыю пратэсту. Калі яна будзе. Карацей кажучы, план, які рыхтаваўся ў 2010 годзе, але быў сарваны, цяпер мае добрыя шанцы. Супрастаяць яму ніхто з кандыдатаў і не збіраецца. Ды і "адмазка" ёсць – Расія".

Мікалай Статкевіч піша, што "газеты да мяне сталі даходзіць толькі два апошнія тыдні, і то не ўсе выпісаныя", а таксама адзначае, што ў яго ўсё нармальна, і ён адчувае сябе добра.



“Тут усё спрабавалі ўгаварыць мяне адмовіцца ад адзіночкі. Ну калі так неабходна ведаць мае думкі, то проста трэба даваць тэлефанаваць блізкім і не забіраць лісты да мяне, каб я часцей ліставаўся. І будзе ім шчасце J”, - з гумарам адзначае палітвязень.

http://spring96.org/be/news/77845

## Айцец и сын разам за праўду

9 ліпеня 2015 г. выйдзе на свабоду фермер Аляксандр Бяльчук з вёскі Арлянка Маларыцкага раёну, які адбывае прысуд па крымінальнай справе ў Баранавіцкай турме. Нагадваем, што ён быў асуджанны на тры месяца арышту «за абарону свайго майна». Аляксандар Бяльчук ня бачыць за сабой віны, таму вырашыў абскардзіць прысуд у Вярхоўным судзе, але безвынікова.

Са слоў бацькі фермера Івана Мікалаевіча Бяльчука скаргу па суду вярнулі на той падставе, што дзяржмыта за падачу скаргі была аплачана іншай асобай. Дзяржмыта аплаціў бацька, таму как Аляксандр у гэты час знаходзіўся за кратамі. “Абсурд!” – кажа бацька Іван Мікалаевіч: “Якая розніца, хто аплаціў? Усё роўна Аляксандр будзе падаваць наступную скаргу, дзяржмыта заплоцім ад імя Аляксандра Бяльчука, таму што праўда на нашым баку!”




## Па даносу суседа

У дачынені да берасцейца Міхаіла Лукашэвіча, якога абвінавачвалі ў паклёпе на кіраўніка дзяржавы, быў спынены крымінальны пераслед у сувязі з адсутнасцю складу злачынства.

Нагадаем, што крымінальная справа ў дачыненні да Міхаіла Лукашэвіча распачалі ў снежні 2014 года. за паклёп на кіраўніка дзяржавы, за «плот праўды», якім крытыкавалася як дзеючая, так і былая савецкая ўлада. У некаторых надпісах згадвалася прозвішча Лукашэнкі. Людзі кажуць, што амаль 20 гадоў плот існаваў, былі заўвагі што да надпісаў з боку мясцовай улады, але справа завіравалася пасля даносу суседа ў міліцыю на Лукашэвіча.

Пэнсіянэра прымусова адправілі ў "Навінкі" на псіхіятрычную экспертызу ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр псіхічнага здароўя, дзе камісія па псіхіятрычнай экспертызе прызнала Лукашэвіча М.І. здаровым.

Дзякуючы прафесійным дзеянням следчага і адваката спынены крымінальны пераслед, у сувязі з адсутнасцю складу злачынства.




Зараз пэнсіянэр Міхаіл Лукашэвіч пазьбягае кантактаў з прэсай.

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін:

“На першым жа допыце Лукашэвіч няправільна сябе павёў, на эмоцыях нагаварыў лішняга непадумаўшы аб чым вельмі хутка пашкадаваў.

Трэба ведаць і не забываць, што артыкул 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь замацоўвае: “Ніхто не павінен прымушацца даваць сведчанні і тлумачэнні супраць самаго сябе, членаў сваёй сям’і, блізкіх родных. Доказы, атрыманыя з парушэннем закона, не маюць юрыдычнай сілы”.

Часам можна і пасядзець за праўду некалькі дзён, але калі сламаешся – атрымаеш гады вязьніцы! Недарэмна крымінальнікі жывуць па прынцыпу ”Ня вер! Ня бойся! Не прасі!”

## Мікашэвічы: хамства супрацоўніка міліцыі засталося беспакараным

Актывіст кампаніі “Гавары праўду”Леанід Дубаносаў накіраваў скаргу ў Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў на тое, што парушэнне прафесійнай этыкі капітанам Мікашэвіцкага ГАУС Аляксандрам Басманавым не атрымала належнай ацэнкі яго непасрэднага кіраўніка.

3 траўня адбыўся звычайны пабытовы інцыдэнт, які даў падставу для звароту са скаргай на нетактоўныя паводзіны капітана Басманава. Па словах Леаніда Дубаносава, ягоны сусед зрабіў заўвагу аўтамабільнаму ліхачу, які ездзіць па вуліцы, дзе гуляюць дзеці, а аматар хуткай язды выклікаў міліцыю. Прыехаў капітан з кіроўцам на міліцэйскай машыне і адразу пачалі ўпіхваць суседа ў аўтамабіль. Дубаносаў быў здзіўлены такімі дзеяннямі міліцыі, нават падумаў, што здарылася яшчэ штосьці, пра што і спытаў у

супрацоўніка міліцыі. Але той рэзка адказаў, што, маўляў, “не твая справа”.

Нягледзячы на такі недружалюбны адказ, Дубаносаў папрасіў прадставіцца і ўдакладніць, у чым усё ж справа. Пры гэтым назваў сябе і сказаў, што быў сведкам інцыдэнту. Адказ супрацоўніка міліцыі зноў быў выразна грубым. На папярэджанне Дубаносава, што ён будзе скардзіцца на падобныя паводзіны міліцыянера, капітан адказаў: “хоць пракурору”.

Актывіст звярнуўся са скаргай на імя начальніка Мікашэвіцкага ГАУС, дзе паведаміў аб неэтычных паводзінах супрацоўніка аддзела. Але начальнік міліцыі Сяргей Дзенісеня ў сваім адказе на скаргу напісаў, што няма падставы для адкрыцця адміністрацыйнай справы на капітана Аляксандра Басманава. Леанід Дубаносаў адзначае, што пра гэта ніхто і не прасіў, размова ішла пра прыцягненне да дысцыплінарнай адказнасці.

http://spring96.org/be/news/77557

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу журналісткі



У Брэсцкім абласным судзе разгледжана касацыйная скарга журналіста-фрылансера з Бярозы Тамары Шчапёткінай, якая прасіла адмяніць рашэнне суда Ленінскага раёна Брэста і накіраваць яе справу на новы разгляд.

Тамара Шчапёткіна 27 красавіка была пакарана па арт. 22.9 ч.2 КаАП -- незаконны выраб прадукцыі СМІ штрафам у 40 базавых велічынь. Падставай для адміністрацыйнага пераследу стала абвінавачанне, што яна нібыта 8 студзеня зрабіла інтэрв’ю з супрацоўнікам ДПС АДАІ Брэсцкага РАУС Сяргеем Неліповічам для “Беларускага Радыё Рацыя”, не маючы акрэдытацыі.

Адвакат Тамары Шчапёткінай Павел Алесік прывёў доказы, што 8 студзеня не было ніякага новага матэр’ялу з капітанам ДАІ Брэсцкага РАУС Сяргеем Неліповічам на сайце “Беларускага Радыё Рацыя”. Адвакат звярнуў увагу на паказанні трох сведак, што ў Брэсцкім раённым судзе Шчапёткіна не падыходзіла да Сяргея Неліповіча наогул. Нягледзячы на гэтыя доказы і не зважаючы на блытаніну ў сведчанннях капітана, суддзя Наталля Сурма не ўбачыла падставаў для адмены рашэння.

Журналістка будзе абскарджваць рашэнне суда старшыні абласнога суда.

http://spring96.org/be/news/77551

## Сітуацыя з парушэннем правоў чалавека – крытычная

У Жэневе адбываецца 104-я сесія міжнароднай канферэнцыі працы, у межах якой будзе разглядацца сітуацыя з парушэннямі правоў прафсаюзаў і працоўных у Беларусі. Наша краіна знаходзіцца ў спісе 25-ці краін, дзе сістэматычна парушаюцца правы працоўных. На думку лідара Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука, які “традыцыйна” не ўключаны ў склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі і прымае ўдзел у сесіі як дэлегат Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў, сітуацыя з парушэннямі правоў працоўных у Беларусі выглядае катастрафічна:

- Часцей за ўсё адбываецца імітацыя абароны правоў чалавека і таго, што тычыцца аховы працы. Бо так ці іначай, усё будзе выглядаць такім чынам, як загадаюць органы ўлады. Зверху ствараюцца нейкія арганізацыі, іх стварае дзяржава і, канешне, яны ад пачатку ніколі не ўкладвалі сэнс у дзейнасць прафсаюзаў як самастойных і самадастатковых арганізацыяў.

З 2003 году беларускае пытанне пастаянна абмяркоўваецца Міжнароднай арганізацыяй працы. Беларусь не аднойчы ўключалася ў спецпараграф арганізацыі як краіна, дзе груба парушаюцца правы працоўных. Менавіта за гэтыя парушэнні Беларусь у чэрвені 2007 году была выключана з генеральнай сістэмы прэферэнцый Еўразвязу.

http://www.racyja.com/palityka/situatsyya-z-parushennem-pravou-chalavek/

## У Брэсце праходзяць заняткі па навучанні назіральнікаў за выбарчым працэсам

За апошні час у трэнінгах, якія ладзіліся ў горадзе, бралі ўдзел амаль 200 чалавек, што маюць намер назіраць за маючымі адбыцца сёлета прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі.

Як распавёў адзін з каардынатараў падобных трэнінгаў у Брэсцкім рэгіёне Уладзімір Вуек, падчас адукацыйных заняткаў удзельнікі даведваюцца пра сутнасць назірання, пра тое, чаму неабходны грамадскі кантроль за працэсам выбараў і як правільна яго ажыццяўляць.

Чакаецца, што на працягу чэрвеня навучанне ў Брэсце пройдуць яшчэ каля сотні актывістаў, якія праз трэнінгі здолеюць больш уважліва вывучыць Выбарчы кодэкс і ўзяць удзел у адмысловых "гульнях", на якіх будуць прадстаўлены канкрэтныя сітуацыі і выпадкі, што могуць здарыцца на выбарчых участках у часе назірання.

Паводле словаў Уладзіміра Вуека, усе патэнцыяльныя назіральнікі з набліжэннем выбарчай кампаніі атрымаюць даведачную інфармацыю, што дазволіць больш грунтоўна і сур'ёзна падыйсці да працэсу назірання непасрэдна на ўчастках для галасавання.

## Журналіст з Івацэвічаў атрымаў пракурорскае папярэджанне

Чарговы журналіст-фрылансер Павел Дайлід з Івацэвічаў атрымаў пісьмовае папярэджанне за працу без акрэдытацыі. Папярэджанне абвясціў намеснік пракурора Івацэвіцкага раёна Сяргей Жуковіч.

Падставай стаў артыкул на сайце „Радыё Свабода" з вёскі Спорава Бярозаўскага раёна пад назвай "Бунт у Спораве: сяляне патрабуюць вярнуць ім возера".

Інфармацыю для пракуратуры прадаставіў Бярозаўскі РАУС – расказвае журналіст:

- Я не вельмі перажываю з-за гэтага папярэджання. Для мяне гэта як грамата ад уладаў за працу. Так яны цэняць незалежную журналістыку, судзяць то карэспандэнтаў Радыё Рацыя, то Беласту. Таму нечага неспадзяванага я тут не бачу. Зразумела, што ёсць



замова, таму я надта і не ўпіраўся.

Павел Дайлід віны сваёй не прызнаў, паколькі лічыць, што мае канстытуцыйнае права на збор і распаўсюд інфармацыі.

Але папярэджанне не збіраецца абскарджваць, бо як паказвае практыка калег-фрылансераў, гэта не прыносіць станоўчых вынікаў.

http://www.racyja.com/hramadstva/zhurnalist-z-ivatsevichau-atrymau-praku/

## У Камянцы з'явіліся ўлёткі ў падтрымку Юрыя Рубцова

16 чэрвеня, у Дзень салідарнасці, жыхары раённага гарадка Камянец убачылі ўлёткі ў падтрымку палітычнага вязня Юрыя Рубцова. На улётцы – здымак Рубцова ў знакамітай кашульцы з надпісам "Лукашэнка, сыходзь!" ды інфармацыя аб прычынах яго зняволення. Таксама гучыць патрабаванне вызвалення ўсіх палітычных вязняў. Нядаўна Юрыя Рубцова праваабрончая арганізацыя Amnesty International прызнала вязнем сумлення і разглядае прысуд яму як частку доўгатэрміновай кампаніі пераследу актывістаў грамадзянскай супольнасці з боку беларускіх уладаў.

Расказвае жонка вязня Ядвіга:

- Раней я яго не падтрымлівала. А пасля падзеяў, нават не гэтага перыяда, калі яго затрымалі пасля сутак, калі яго забралі, нават дамой не далі зайсці. Зараз у мяне змяніўся светагляд… Муж у мяне добры. Калі я пачынаю гаварыць, я пачынаю плакаць. Мне без яго кепска. Ён вось дом наш пабудаваў уласнымі рукамі.




Спачатку Юрый Рубцоў быў асуджаны на 18 месяцаў «хіміі» нібыта за абразу суддзі. Цяпер яго прысудзілі да двух гадоў калоніі, быццам бы ён ухіляўся ад працы, абавязковай у час спецпасялення. Вязень у сваю абарону заяўляў, што ён не адмаўляецца ад працы, а толькі патрабуе дастойную аплату.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-kamyantsy-zyavilisya-ulyotki-u-padtrymku/

## Мікашэвіцкі актывіст аштрафаваны за ўлёткі салідарнасьці з Рубцовым

Мікашэвіцкі актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Віталь Каліноўскі аштрафаваны на 3 базавыя велічыні (540 тысяч рублёў) за расклейваньне ўлётак з заклікам да салідарнасьці з палітвязьнямі.

Справу Віталя Каліноўскага разглядала камісія пры Мікашэвіцкім гарвыканкаме на чале зь яго старшынёй Галінай Сыцэвіч.

Камісія вырашыла, што Віталь Каліноўскі парушыў пастанову Савету Міністраў аб добраўпарадкаваньні населеных пунктаў.




«Я зачытаў ім цэлую прамову, абгрунтаваную Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Старшыня камісіі Галіна Сыцэвіч нават некалькі разоў мяне перабівала. Адна з чальцоў камісіі прапаноўвала даць мне найменшае пакараньне, але Галіна Сыцэвіч прапанавала прагаласаваць за 3 базавыя штрафу», — кажа спадар Каліноўскі.

У часе разгляду справы Віталь Каліноўскі зрабіў заяву, што расклейваньнем улётак ён хацеў выказаць салідарнасьць з палітвязьнямі, і ў прыватнасьці зь Юрыем Рубцовым, якога судзілі якраз у дзень акцыі Каліноўскага.

Віталя Каліноўскага затрымалі міліцыянты ў Мікашэвічах 26 траўня, пасьля таго як ён расклейваў улёткі з выявамі беларускіх палітвязьняў.

http://www.svaboda.org/content/vital-kalinouski/27079385.html

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»